Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 34 (85). Вільня, Серада 13 Красавіка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Правакатарская роля.

Эндэцкі заядлы шавінізм ня мае межаў. Пад свой сьмертаносны нож ён гатоў пусьціць кожнага ды ўсякага. Шчасьце толькі, што рукі кароткія...

Ад самага пачатку буйнага росту Грамады „Dziennik Wileński“, орган эндэкаў у Вільні, пускаў розныя фантастычныя рэвэляцыі аб працы ды намерах Грамады і ўвесь час апэляваў да ўлады, заклікачы ўрад да рэпрэсыяў. Эндэкі баючыся беларускага адраджэнскага руху—як карабель ратунку маюць толькі адно—ўціск ды гвалт. Вось ня дзіва, калі ўрад, той урад, які ім ня мілы, распачаў мілую для іх справу, дык яны першыя і гучней усіх крычалі біс. Але-ж урад не пайшоў сьледам за артыстамі і на эндэцкі біс на'т не пакланіўся.

Мэтаю эндэцкага біcу была і ёсьць беларуская справа. Істнаваньне беларускіх арганізацыяў, Беларускі Сялянскі Саюз для эндэкаў, гэта—нож і вось, за гэты нож яны пробуюць хапацца голымі рукамі.

Справа ў тым, што ўсе свае рэвэляцыі аб „Грамадзе“ эндэкі базіравалі на камунізьме, дык і ў сваім паходзе проці Сялянскага Саюзу ўжываюць гэтых самых аргумэнтаў. Але-ж увесь шырокі сьвет знае антыбальшавіцкую праграму і тактыку Сялянскага Саюзу, увесь вялікі сьвет ведае аб тым, што Беларускі Сял. Саюз ёсьць чыста нацыянальная сялянская арганізацыя, якая бароніць правы Беларускага Народу ад усялякіх пагвалчэньняў, шаг за шагам ідучы да сваей мэты, якая дзевяць год ужо сьвеціць як пуцяводная зорачка.

Ідэя Беларускага Народу не падпарадкавана нікому...

Пішучы гэта мы хочам адзначыць як добрую зьяву тое, што эндэкі б'юць трывогу з перапуду, а гэта сьведчыць што мы —сіла з якою лічацца, калі не па любові дык з баязьні...

У сваіх нападках на Сялянскі Саюз, эндэкі ў праступнасьць Сялянскаму Саюзу ставяць збор ахвяраў на палітычных вязьняў.

Дык вось на гэта і адкажам. На наш пагляд увесь Беларускі Народ, гэта—адна сям'я і калі мы ў сваім хатнім жыцьці маем якія-колечы спрэчкі, дык гэта ня можа датыкаць эндэкаў. А калі Беларускі Народ адна сям'я, дык і мусіць усё рабіць а сямейнаму. Ніхто яшчэ нідзе і ніколі не забараняў прысьці з дапамогаю брату ці якому іншаму сваяку, дык ня можна забараняць і нам, калі мы толькі будзем мець магчымасьць дапамагчы нашым братом Беларусам, якія папалі за краты. Гэта ня можа быць віною і яшчэ з тых прычынаў, што арыштаваныя Беларусы не асуджаны, дык наперад без суда нельга тварыць над імі самасуду, як робяць гэта эндэкі. Акрамя грамадзістаў у нас ёсьць і другія палітычныя вязьні, да якіх ужо нельга на'т і тэорэтычна прычапіць камунізм; адзін з першых як прыклад і ёсьць беларускі кс. В. Гадлеўскі.

Абгаварваючы вышэй паданае мы ня маем на мэце бараніцца ад эндэкаў. Мы добра разумеем, што для нашае ідэі эндэцкія страшкі ня маюць ніякае вагі. Мы хочам гэтым выявіць і абрысаваць правакатарскаю ролю эндэкаў і паднясьці гэты малюнак, як вянок згоды беларускім паланафілам, уродзе Паўлюкевіча і беларусафілам з „Умястоўскага Дна“, няхай прымуць яны „дарагі вянок на галовушку сваю“ і далей зьвягаюць аб супрацоўніцтве тады, калі польскі ўрад адкідае ўсякае супрацаўніцтва.

Эндэцкі правакацыйны паход проці нас не павінен нас аслабляць, а наадварот яшчэ больш гартаваць для змаганьня за нашыя ідэалы.

Ніякая варожая сіла ня пазбавіць нас гэтага Ідэалу, бо ён—у душы кожнага Беларуса. А душа? Душа Беларускага Народу не сьмяротна, яна вечна, як вечны сам народ, які пасьля многавекавай няволі жыве і вызваляецца...

*Ніколі не зністажай газэты, прачытаўшы дай яе суседу.*

## Нявольніцкая псыхалёгія.

У 1911 годзе, калі прыходзіліся 50-тыя ўгодкі скасаваньня прыгону, зьявілася многа рожных успамінаў, як часоў нявольніцтва, гэтак сама і таго моманту, калі яшчэ была сьвежаю магілка праклятага нябошчыка.

Аднойчы папала мне часопісь Александрыйскага павятовага земства, Херсонскае губэрніі і на вялікае мае зьдзіўленьне я там вычытаў, што сярод сялянства за часаў прыгону істнавала перакананьне, што бяз пана нельга жыць; па тагочаснаму сялянскаму пагляду здавалася: хто-ж будзе турбавацца аб сялянстве? Сялянству (пэўна не ўсяму) здавалася, як гэта можа быць, каб ня было гэтакага блізкага начальніка.

Прачытаўшы гэтукую вестку, дзеля таго, што яна мяне надта зацікавіла, я пачаў шукаць яшчэ якога-небудзь іншага сцьвярджэньня.

Разумеецца, што ў гэтакім выпадку я зьвярнуўся да некалькіх старых асобаў, якія, як жывыя сьведкі, павінны былі даць мне вышэй успомненае сцьвярджэньне.

І праўда — некалькі гэтых жывых сьведкаў жывым словам сказалі тое самае, што прышлося мне вычытаць у часопісі.

Відаць, што кожнае нявольніцтва мае такую сілу, якая дае яму магчымасьць панаваць над чалавекам хоць зьяўляецца ён разумнаю істотаю.

Я пішу гэта дзеля таго, што гэтакая самая нявольніцкая псыхалёгія пануе ў нашым народзе і цяпер. Праўда, прыгону ў тэй форме якая была тады, цяпер няма, але-ж... псыхалёгія дык асталася.

Некалькі разоў мне прыходзілася змагацца з прадстаўнікамі беларускага народу, якія мелі адвагу залічаць сябе да радоў народнай інтэлігэнцыі аб тым, што Беларусь як гэтакая самастойна істнаваць ня можа. А гэта дзеля таго, што на яе зямельцы няма газы, солі, жалеза, вугальля і шмат чаго іншага. Дык знача, калі-б прышлося стварыць незалежную рэспубліку, дык істнаваць было-б нельга. Знача дзеля гэтага Беларусь абавязкова павінна прылучыцца да Рад. Расеі. (Аб далучэньні Беларусі да Польшчы яшчэ не спаткаў ані воднага ахвотніка).

Я ня думаю пярэчыць справядлівасьці, бо праўда, што тых рэчаў, якія толькі што я вылічыў у нас не дабываецца, не дабываюцца але-ж прывозяцца. У сувязі з гэтым паўстае пытаньне, адкуль-жа яны бяруцца? Ці вам дае хто за дарма? Па першаму ясна, што тыя натуральныя багацьці, якія ў нас не дабываюцца, прывозяцца з другое старонкі, а па другому — адкажу, што якім-бы спосабам ці парадкам яны да нас не пападаюць, дык гэта другарадная рэч, бо ніхто нічога нам дарма не дае. Усё, чаго няма ў нас, мы мусім купіць і купляем. Ну, дык у чым-жа палёгка?

Ясна, што ніякае палёгкі ад таго, што мы належым да іншае дзяржавы, мы ня маем.

Наадварот, мы хоць і бедныя, акурат даем карысьць нашым гаспадаром, бо безкарысна яны нас ня трымалі-б.

Мы ўсё купляем за грошы.

А трэба заценіць, што грошы, якія выдаюцца на жалеза, на соль, на газу і іншыя ім падобныя прадметы, ідуць па належнасьці да гаспадароў гэтага дабра, знача ўсё роўна яны ад нас уцякаюць.

Ёсьць ведама, што вялікая дзяржава можа стварыць лепшыя ўмовы жыцьця для сваіх грамадзян, але з практыкі добра ведаем, што ў меншых дзяржавах грамадзяне багацей жывуць чымся ў вялікіх, напрыклад у Расеі і ў Бельгіі, ці ў Даніі, ці Швэцыі. Наадварот, паняволены народ на'т і ў вялікай дзяржаве заўсёды выкарыстоўваецца; якраз ад нашай належнасьці да чужынцаў мы бязумоўна церпім і матэрыяльна і праўна.

Мы плацім падаткі нароўні са ўсімі грамадзянамі, а не атрымоўваем нічога. Калі справа тычыць адбудовы, дык у першую чаргу адбудавалася каранная Польшча. Калі купляць зямлю прыходзіцца цераз Зямельны Банк, дык гэта можна толькі Палякам, калі даецца які крэдыт, дык у першую чаргу Паляку-асадніку; на службе ўрадавай толькі чужынцы і г. д. Гэта ў Польшчы. Ну а як-жа там у Рад. Расеі? — Пэўна, што тое самае, бо калі трэба пабудаваць электрастанцыю, дык пабудавалі каля Масквы ды на Волхаве, а ў Менску на'т станцыя чугункі не адбудавана, хаця-ж і радавая ўлада бярэ падаткі з Беларусаў на роўні з Расейцамі. Замест даць сялянам зямлю на месцы, на Беларусі, беларускіх сялян высяляюць у Сібір, дзе ўжо налічваецца каля мільёна нашых братоў.

# Сяляне і работнікі!

**прысылайце ахвяры на палітычных вязьняў!**

Вельмі шмат асоб ужо прайшло праз вастрогі, яшчэ больш дагэтуль сядзіць у вастрогах і невядома як шмат асоб можа яшчэ трафіць у вастрог за свае палітычныя і нацыянальныя ідэі.

Усе тыя, што цяпер на волі павінны помніць аб вязьнях, нашых братах або суседзях і памагаць ім матэр'яльна. „Сялянская Ніва", пачынаючы ад гэтага дня, адкрывае прыймо ахвяр на палітычных вязьняў.

Усе прысланыя ахвяры будуць перадавацца палітычным вязьням, а справаздача будзе друкавацца ў газэце. Дык кожны, каму дарага адраджэньне Беларускага Народу, каму дарагі змагары за беларускую нацыянальную ідэю, каму дарагі палітычныя вязьні Беларусы, сьпяшайцеся прыслаць у рэдакцыю хоць маленечкую ахвяру.

За Вашыя прысланыя грошы будуць вам удзячны палітычныя вязьні.

Грошы можна прысылаць на адрэс:

Wilno, Zawalna 6 m. 5. Рэдакцыя „Сялянскае Нівы".

# Новае аблічча.

У № 31 „С. Нівы" мы падалі бесстароннюю лёгкую крытыку беларускага месячніка „Родныя Гоні". Гэтая крытыка апіралася выключна на матэрыяле зьмешчаным у месячніку і затым з нашага боку не магло быць ніякіх „асабістых" анімозыяў да рэдакцыі „Родных Гонях". Што крытыка „Сял. Нівы" не падабалася рэдакцыі „Родных Гоняў", дык у гэтым нічога няможа быць дзіўнага, але вось ня толькі крыху, але на'т вельмі шмат ёсьць дзіўным тое, што польская газэта, стаячая блізка да „пасьлямаёвага ўраду", „Kurjer Wileński" ўзялася бараніць пакрыўджаныя „Родныя Гоні". Гэтая газэта між іншым у нумары 80 піша так:

„Некалькі дзён таму назад мы пісалі аб узьнікшым новым беларускім месячніку „Родныя Гоні", пасьвячаным выключна справам літэратурным і культурным. З пэўным прызнаньнем мы падчырківалі тады факт звароту ў слове ад рэдакцыі да ўсяго грамадзянства нашага краю з просьбай аб супрацоўніцтве і помачы. Над гэтым ведаем, што цэлы рад дзеячоў з абозу краёўцаў (Палякоў блізкіх па ідэалёгіі „Kur. Wil." — Рэд.) быў спэцыяльна прошаны аб супрацоўніцтве ў новай часопісі".

„Адзіным голасам, што неахвоча выказваецца аб новым месячніку ёсьць рэцэнзія ў „Сялянскай Ніве" № 31. Яе аўтар замест правесьці крытыку па сутнасьці (рэчавую) або падаць сапраўдныя бракі новаму выдаўніцтву, тарнуе мэтоду вельмі злосных і зусім неабаснаваных уваг. На колькі ведаем уся гэтая няпрыемная напасьць знаходзіць сваю падкладку ў асабістых анімозіях да рэдакцыі „Родныя Гоні".

Хоць пішучы гэтыя словы зусім ня маем на мэце займацца палемікай з польскай газэтай у справе рэцэнзіі беларускай літэратурнай часопісі, бо выглядала-б гэта больш як сьмешным, аднак хочым дасужага польскага абаронцыка з „Kurjera Wileńskiego" адаслаць да № 31 „Сял. Нівы" каб яшчэ раз уважна прачытаў нашую рэцэнзію. Там знайдзе, што нашая крытыка выключна апіраецца на гэтых сапраўдных браках, якіх польская газэта „Kur. Wil." не дагледзіла, а не на нейкіх „асабістых анімозыях", аб якіх у крытыцы няма ніякага ўспаміну. Пасьля ўважнага прачытаньня „Сял. Нівы" дасужы польскі рэцэнзар будзе прымушаны сьцьвердзіць толькі адно, што ўся крытыка, зьмешчаная ў „Сял. Ніве" апіраецца толькі на фактах і браках, узятых з „Родных Гоняў" і што беспадстаўнасьці дапусьціўся толькі „Kur. Wileński", баронячы беларускую часопісь і не падаючы аніводненькага запраўднага аргуманту.

Але ўся справа ня ў гэтым. Нас вельмі зацікавіў факт, што польская газэта, выказала нязвычайную апеку над беларускім месячнікам і хоча каб беларускія газэты ня крыўдзілі гэтага месячніка. На чым-жа апіраецца гэтая апека? Ды скуль польская газэта так добра паінфармавана аб „асабістых анімозіях" да рэдакцыі „Родных Гоняў?" Адно можам толькі сказаць, што ўсяго рэдакцыйнага складу „Родных Гоняў" ня ведаем, дык адкуль „Kurjer Wileński" ведае гэты рэдакцыйны склад „Родн. Гоняў"?!... І чаму гэта запанавала між абедзьвюма рэдакцыямі польскай „Kur. Wil." і беларускай „Родныя Гоні" такая прыязьнь? Мо' тут ня прошаная ўслуга? Але аб гэтым, у выпадку патрэбы, можна будзе яшчэ напісаць.

*Рэцэнзар.*

# Да нас пішуць.

### На нашай пошце.

(Тэлеханы, Косаўскага пва.)

Нідзе мусіць гэтак не рабілася як на нашай пошце, што дзень дык навіна, але адзін дзень, дык найбольшая, бо прапала аж тры тысячы злотых.

Добра жылося нашаму паштару, дзень і ноч круціў „патэфон" за які заплаціў 300 зл. Ягоная жонка толькі і рабіла, што езьдзіла, то ў Вільню да сваей маткі, то ў Варшаву часамі, возячы: курэй, качак, гусей і г. д. Але-ж пасьля як выкрылася прапажа 3.000 злотых, дык за тое страсанула паштара трасца; гэта было ў піўной Лаўдмана. Гэтак трасло, што аж гвалт крычаў, „дайце гарэлкі, а то ўміраю!..." Хоць было ўжо позна, але-ж жыдоўка мусіла шукаць гарэлкі, каб адратаваць, гэтакім цудам п. паштара ад сьмерці.

І неяк дзіўна, што гэты паштар Паліва доўга трымаўся на нашай пошце, ды яшче цераз яго, за тое, што пасварыўся з гэтым Палівою папаў у вастрог п. Тычынскі.

Гледзячы на гэтае зладзейства, сьмяюцца людзі, што Польшча зладзеямі адбудоўваецца. За ўвесь час кіраваньня поштаю Палівай, неяк ні разу не прыяжджаў кантроль з дырэкцыі. Здавалася, што ў гэтага Палівы добрае падтрыманьне там у цэнтры. Аж-но нарэшце пашло на ліха Паліве, і прыехаўшы кантроль — пракантраляваў Паліву з Тэлеханаў...

А. Шышка.

### Прыхільнікі паноў.

(Вёска Дабучын, Пружанскага пав.).

Пакуль Максім Валасовіч ня быў радным, датуль ён не называў сябе панам. Як толькі яго выбралі ў радныя, дык пайшло зусім інакшай. Ён кажа на моладзь: „Вам трэба пісацца да Беларусаў, а я ўжо астануся з панамі". Чаму? Бо ён атрымоўвае сялянскія грошы. Аднаго разу прыехаў да яго войт з пісарам, дык пры выпіўцы войт гутарыў пабеларуску, а радны М. В. папольску, хоць сам і Беларус. Цікава, што гэты радны ня ведае колькі яму трэба плаціць падаткаў, бо неяк у гутарцы з сялянамі сказаў, што солтыс С. Скобля, перабраў у яго адзін злоты падатку. Аб гэтым даведаўся у сэкрэтара ў валасьці. Пасьля ўсяго гэтага радны казаў, што заявіць падатковаму інспэктару. Але прайшоў 1926 г., настаў 1927 год, а нашы сяляне не дачакаліся інспэктара. Чаму? Гэта асталася для сялян невядомым. Дык вось другі раз, сяляне, не выбірайце прыхільніка паноў. А каб не плаціць цераз мерных падаткаў, дык ідзіце ў Беларускі Сялянскі Саюз і пад яго сьцягам змагайцеся супольнымі сваімі сіламі за лепшае жыцьцё.

Янка Бедны.

### Гавораць адно, а робяць другое.

Вялізарная бяда гэта наша цемната і наша нясьведамасьць. Мы, Беларусы, гатовы ўсякаму верыць, хто салодка гаворыць, а асабліва калі справа датычыць нашага жыцьця. Калі хто нас абмануў хоць раз, той больш ад нас не дажджэцца даверу. Галоўныя ў нас думкі аб тым, на чым мы жывем — гэта аб зямлі. „Вучоныя" ўрадоўцы здаецца хочуць нам у гэтай справе памагчы, але ўсё акончваецца інакш. Ніжэй падаю факт з Земскім Камісарам Вялейскага пав., да якога людзі ў справе выхаду на хутары зварочываюцца. У яго вядомы мэтод:— абяцаць жураўля ў небе ня даўшы сьнігіра ў рукі.

Пачалася справа аб выхадзе на хутары вёскі Рабунь, Касьцяневускай валасьці. Вёска вялізарная каля 130 гаспадароў. Камісар павятовы абяцаў прыбаўкі зямлі каля 300 гэктараў ад суседніх уласьнікаў і суседняга скарбу. На пачатку працы выяснілася, што акрамя 40 гэктар. царкоўнай зямлі больш німа, ды і апошняя далучаецца за высокую выплату. Каморнікі, якія разьмяралі зямлю, ніяк не згадзіліся абмераць для ацэначнай камісіяў, асабліва кавалкі, якія ўпарадкаваны да вышэйшай катэгорыі, чымся побач пад заросьлямі, а залічаны да агульнага кавалаку ніжэйшай групы. Разробляная і ўгноеная вясковая зямля, такім чынам, пашла ў аднэй цане з царкоўнай над зарасьлямі. Такім парадкам, многа вясковай зямлі добрай пашло ў аднэй цане з нягоднай, бо каморнікам ня хочыцца доўга вазіцца з мужычком. Яны нават адважваюцца заяўляць такую рэч, — што іхняя дзела толькі размерыць, а сяляне посьле няхай сабе хоць галавой аб сьцяну б'юць. Усе расходы па камасацыі абяцалі аднясьці на рахунак казны дзеля таго, што вёска бедная, ніяк ня можыць паўстаць на ногі ад вайны, у якую ўся згарэла, а цяпер кажаць што трэба плаціць па 12 злотых з гэктара. Няма веры нікому, ні адкаго няма спагаднасьці нашаму брату.

Квактун.

### Ізноў падаткі.

(З Войстамшчыны).

Плацім мы плацім, гмінныя падаткі і выплаціць ніяк ня можам і ня ведама, дзе гэта грошы дзяюцца? Не зважаючы на гэтак вялікія падаткі, ужо заплачаныя за I і II раты 1926 г. Урад нашай Войстамскай валасьці, яшчэ абложыў сялянаў нейкім гмінным дадаткам, г. зн. 50% падвышкі за то-йжа, ужо мінулы 1926 год. Гэты падатак прычыніў сялянам вялікую крыўду, бо ніхто з нас ня ведае на што гэта ён бярэцца, а нашыя „ганаровыя ўрадоўцы", дык ня хочуць нам аб гэтым і тлумачыць.

Ці ня хочуць гэта, нашыя валасныя ўрадоўцы, пакрыць нашымі мазольнымі грашмі, нядоімкі паноў - абшарнікаў, ды траты бышага войта Пастарнака і сэквэстратара Сорочынскага?

Дзесяты.

### За што арыштоўваюць.

Часта прыходзіцца чытаць на шпальтах „Сялянскае Нівы" заклікі аб складаньні ахвяраў палітычным вязьням. І праўда, людзі якія не не шкадавалі свайго дабрабыту, якія для дабра сваіх пакрыўджаных братоў згубілі вольнасьць і апынуліся за цяжкімі вастрожскімі кратамі,—павінны быць падтрыманы матэр'яльна. Наш найпільнейшы абавязак памагчы сваім барацьбітам, чым хто можа. Хто пабываў сам за кратамі, дык той можа лёгка зразумець, якою ўдзячнасьцю поўна сэрца арыштаванага атрымаўшага запамогу: тагды і краты яму ня гэтак стануць цяжкімі ад сьведамасьці, што ўдзячныя браты не забыліся аб ім. І сяляне гэта добра разумеюць, і шчодрай рукою заўсёды гатовы даваць. Ня ведаюць толькі, як гэта зрабіць, бо ня ўсім-жа ахвярадаўцам нясьці свае ахвяры вязьням? Дзеля гэтага трэба выбраць аднаго чалавека, які сабраў-бы і здаў-бы ахвяры. Гэтак зрабілі сяляне вёскі Сашыцы, Селецкае вол., Пружанскага пав. Калі адзін з сялян гэтае вёскі Гмыр Уладзімер здаў па пошце сабраныя 60 зл., палітычны вязьням у Пружане, дык быў арыштаваны, і... сам прасядзеў два месяцы ў вастрозе „пад сьледзтвам". Чаго толькі там яму не закідалі: і „Мопра", і „antypaństwowe działanie", і прыналежнасьць да К. П. З. Б. і ці мала яшчэ чаго!?...

Полымя.

### Не парцэляцыя, а спэкуляцыя.

(Двор Дабраполь, Маўчадзкае вол., Баранав. п.).

У нашым павеце ў апошніх часох абшарнікі масава „парцэлююць" свае двары. Як выглядае гэтая „парцэляцыя" і як адбіваецца яна на жыцьці малазямельных сялян, пакажа ніжэй апісаны факт. Для прыкладу возьмем двор Дабраполь Яна Мержэўскага і разгледзім, як праводзіць ён прадажу сваіх 600 дзес. зямлі. Калі ня лічыць лепшае зямлі, якая знаходзіцца ў цэнтры двара і якую пакуль што абшарнік пакідае сабе—горшая зямля прадаецца па цане 80—100 даляраў за гэктар. Прычым $^2/_3$ належнае пакупнае сумы трэба заплаціць адразу, рэшту пры атрыманьні купчае. Заплаціўшы грошы, набыўца атрымоўвае часовы ўступны дагавор, па катораму абшарнік забавязуецца прадаць столькі-то зямлі і выдаць на яе адпаведныя дакумэнты. Усе расходы па рэалізацыі дагавору ложацца цалком на набыўцу. Калі-б, дзеля якіх небудзь прычынаў, набыўца ня здолеў свайго кавалка зямлі выкупіць, або не заплаціў хоць-бы самае дробнае сумы ў вызначаны прадаўцом тэрмін, дык, згодна з умовай, траціць права на закупленую зямлю і... заплачаныя грошы. З гэтага ясна, што бедныя малазямельныя і беззямельныя сяляне на гэткіх цяжкіх варунках купіць зямлі ня могуць. Праўда, некаторыя з іх рашаюцца купіць 1—2 гэктары, але гэтыя спробы заўсёды канчаюцца для селяніна вельмі сумна: застаецца ён бяз жывёлы, бяз грошай і без зямлі, якую закупіў у абшарніка, але не выканаў якога небудзь пункту ўступнага дагавору. Цяжка апісаць усё тое, што перажываюць цяпер бедныя сяляне, бачачы, як уцякае ад іх зямелька, якую абраблялі іх дзяды і прадзеды,—да розных прыежджых багатых купцоў. І гэта ёсьць зямельная рэформа! Паміма волі задаеш сабе пытаньне: што-ж будзе з малазямельнымі і беззямельнымі сялянамі далей, калі бліжэйшыя да іх вёсак двары будуць гэтакім чынам „распарцэляваны"? Нэндза, голад, залежнасьць ад багатага—без канца будуць прасьледаваць гаротнага селяніна, які цяпер ужо дайшоў да апошняга стопня, да жабрацтва. І ня дзіва! Зьнішчаных вайной гаспадаркі яшчэ дагэтуль ня прыйшлі да направы: многія сяляне жывуць у курных зямлянках. Апрача гэтага па прычыне леташняга неўраджаю 50% сялян ня маюць цяпер насеньня, а самі ядуць хлеб з мякінаю. З адпушчанага ўрадам крэдыту на насеньне скарыстала дваццатая частка сялян нашае гміны, ня маючых насеньня. Жудасны абраз! А побач з гэтым ідзе ціха і плянова спэкуляцыя зямлёй...

Ярашэвіч.

### Беларуская вечарынка.

(Засц. Углы, Брасяўскага пав.).

У суботу 12 лютага г. г. першы раз адбылася беларуская вечарына з прадстаўленьнем. Ня гледзячы на тое, што між вёскай Азіранцы і засц. Углы добры кавалак дарогі—каля 25 кіл., прыехалі артысты і музыканты. На скорую руку была збудавана сцэна, пры дапамозе тутэйшай моладзі. Артыстычна адыграны дзьве п'есы Аляхновіча: „Шчасьлівы муж“ у 4-х актах і „Суд“ у 1-м акце. Некаторыя аматары-артысты надта ўмела выканалі свае ролі. Саля была перапоўнена публікай, усе былі вельмі вясёлыя і здаволены, пасьля кожнага акту воплескі і пахвалы сыпаліся надта шчодра. Пасьля прадстаўленьня адбыліся скокі аж да самага рана. У часе цэлага вечара настрой быў паднёслы. Дык на гэтым месцы складаю шчырую падзяку арганізатарам вечарыны, жадаю вялікага пасьпеху ў працы гэтым сяўцам культуры сярод нашых сялян Беларусаў. Гэтак сама зьвяртаюся да цябе моладзь, з заклікам аказваць падмогу і прыхільнасьць, бо толькі праз культуру мы можам палепшыць сваё гаротнае жыцьцё. Новы-Званар.

### Паход процi сьведамасьцi.

(гм. Скідэльская, Горадзенскага пав.)

Як ужо няраз газэта „Сялянская Ніва“ пісала і піша, што ўлада стараецца ўсялякімі способамі заглушыць той беларускі рух, які адзначаецца ці то ў культурна-асьветным напрамку, ці ў сацыяльна-вызваленчым. Паход улады процi Грамады і разьвязаньне яе можа і зьяўляецца справядлівым з ягонага пункту гледжаньня, але як ведама, культурна-асьветныя ўстановы нічога ня маюць супольнага ў сваей дзейнасьці з арганізацыямі палітычнымі. У сувязі з вобыскамі і арыштамі дзеячоў Грамады робяцца рэвізіі і ў памешканьнях Т-ва Беларускай Школы, як гэта мела месца ў нас у м. Скідлю.

Загадчыкам бібліятэкі, пры Т-ва зьяўляецца Пётра Сеўрук, пасьледавальнік Талстога, нічога супольнага ня маючы з палітыкаю, у пераканаэньнях якога ёсьць нялюбасьць да ўсялякай палітычнай барацьбы, але які ёсьць шчырым прыхільнікам беларускага культурнага адраджэньня. Аднак-жа тутэйшая паліцыя пастаралася зрабіць некалькі разоў там рэвізіі, прычым заўсёды перад вобыскамі ў грамадаўцаў. У часе рэвізіі, асобна ў сувязі з ліквідацыяй Грамады, у бібліятэцы Т-ва ўсякія часопісі беларускія рваліся і тапталіся паліцыяй, пад кіраўніцтвам камэнданта пастарунку нават друкі ня маючыя сувязі з Грамадой, але шанаваныя сялянствам, як напр. „Сял. Ніва“. Гэтыя адносіны паліцыі да беларускіх друкаў выяўляецца, як жаданьне ўлады зьнішчыць беларускі рух і культуру. Але-ж сьвядомасьць сваей нацыянальнай прыналежн. ёсьць агульнай здабычай, асабліва-ж моладзі. Наша моладзь ня мае ўжо ахвоты гнуць перад панам сьпіну, яна заўсёды становіцца ў першых радох той барацьбы, якая ідзе процi ўгнятаньня. Ня вырваць ужо панам ніякай сілай і способам тое зерне, што закінута ў беларускую думу, яно ўсходзіць і красуе яркай вогністай краскай. Залом.

### Камэндант б'ецца.

(Тэлеханы, Косаўскага пав.).

У гэтым мястэчку ёсьць камэндант пастарунку паліцыі. Ня гледзячы на тое, што сам паходзіць з Беларусаў і ўзгадаваўся пад саломенай страхою, сярод сярмяжнага сялянства, перавярнуўшыся на Паляка надта ненавідзіць Беларусаў. Як папаў яму ў рукі селянін Мікалай Багдановіч, сэкрэтар гуртка Грамады, дык гэты камэндант зьбіў яго да паўсьмерці.

Таксама пабіў Віктарага Кукеля, але гэты ўжо сам вінават, бо пайшоў павіншаваць п. камэнданта ў дзень яго імянінаў 19 сакавіка на сьв. Язэпа.

А яшчэ ёсьць дзевяць хлопцаў Беларусаў, што працуюць на станцыі, дык гэтым ужо не дае спакою, прыстаючы да іх, заклікае на пастарунак, піша нейкія пратаколы і пытаецца чаму ня пішацеся ў польскую партыю?

А. Шышка.

## СЯЛЯНЕ,

Аб усіх крыўдах, аб зьдзеках адміністрацыі і аб вашым жыцьці пішыце ў сваю газэту „Сялянскую Ніву“.

# Гаспадарскі аддзел.

### Як сеяць гарох.

Шмат дзе на Беларусі на гарох мала зьвяртаюць увагі, а жаль, бо гарох ня толькі дае добры прыбытак, але-ж таксама значна паляпшае зямлю пад расьліны, якія будуць пасеяны пасьля гароху.

Ральлю пад гарох трэба гараці ўвосень, а на вясну толькі заскародзіці і зараз-жа раней сеяць, бо гарох патрабуе вільгаці, каб добра паўсхадзіць. Закрываць зярно трэба глыбока, а дзеля гэтага, звычайна ў культурных гаспадарках прыкрываюць яго трох, або чатырох лямешным плугам.

Найлепш сеяць гарох радавою сеялкаю радачкамі 25—30 цэнтымэтраў адзін ад другога, што дае магчымасьць абрабіць гарох сапкаю, каб зьнішчыць дзікае зельле ды траву.

Ёсьць для сеяньня гароху знарочысты прылад „Плянэт“, які дае магчымасьць выканаць вышэй азначаныя работы адносна гароху.

Гарох можна сеяці пасьля кожнае расьліны, але-ж так, каб ён на адным месцы часта ня сеяўся, бо гэта будзе шкодна.

На сухіх грунтах можна гной даваці проста пад гарох, а на сырых мясцох ды на сьвежым гноі гарох расьце надта буйна, дык пасьля загнівае, а дзеля таго на сырых мясцох трэба гной даваць пад папярэднюю расьліну, а калі гэтак, дык найвыгадней сеяць гарох на бульбовішчы.

На бульбовішчы выгадна сеяць гарох дзеля гэтакіх прычынаў: як нам ужо ведама, што расьліна, таксама як і арганічная жывёла патрабуе яды і вось кожная расьліна спажывае тых ці гэтых хімічных элемэнтаў болей. Дык вось, гарох патрабуе найболей — вапны. Вапна ёсьць і штучны гной, які ня ўсім даступны, але-ж ёсьць вапна і ў хлеўным гноі. А дзеля гэтага на лубіне ці на якіх іншых зялёных гнаях, гарох сеяць ня выгадня, бо будзе малая а бадай і неякае карысьці. Зялёныя гнаі маюць найболей азоту.

Але-ж вапна гэта гэткі хімічны элемэнт, які раствараецца ня хутка, дык дзеля гэтага якраз пасьля бульбы, якая мала спажывае вапна, з таго гною, які кладзецца пад картофлю. Найвыгадней сеяць гарох дзеля таго, што за час заняты бульбаю, гэты грунт зможа растварыць вапна і зрабіць яго прыдатным да спажывы расьлінаю.

Калі-ж сеяць гарох на сьвежым гнаі, дык класьці гной трэба ўвосень, вось за частку восеньні, за зіму і частку самую раньню вясню, вапна пад дзействам атмасфэрычных дзейнікаў растворыцца і гарохавая расьлінка будзе мець гатовую спажыву. Калі-ж палажыць гной, тагды калі сеецца гарох, дык пакуль вапна растворыцца — расьлінка не будзе мець што спажываць, а цераз гэта — зачахне. Пасьля ўжо ёй будзе цяжка ўваскроснуць.

Наагул трэба ведаць той грунт на якім зьбіраешся сеяць гарох, ці ён вапністы ці не.

А ведаючы гэта і трымаючыся вышэй пададзяных сказаў будзе лёгка кабінаваць гэтак, каб пасеяць гарох з карысьцяй, бяз рызыкі на страту.

# Куток сьмеху і сатыры.

### Ходзяць чуткі што:

Дзякуючы вялізарнаму пасьпеху ў культурна-асьветнай працы „Białoruskiej Chatki“ маюць быць адчынены аддзелы „Chatki“ на кожнай вуліцы м. Вільні, якая такім чынам будзе скультурызавана, прасьвечана і збеларушчана аканчальна. Памешканьні ўсіх кінаў, тэатраў і лепшых рэстаранаў будуць выкарыстаны для ўспомненых аддзелаў.

Кліентам, якія шмаруюць боты дзёгцям уваход будзе забаронены. Аналізу чым мазаны боты, будзе рабіць сам дохтар П. сваімі прыроднымі сродкамі. На выпадак катару заступіць яго мае князь.

### З вясковых гутарак.

Беларус каталік пытаецца ў Беларуса праваслаўнага:

— Чуў браток, за беларускасьць наш ксёндз сядзіць у вастрозе, а парахвія асталася ў жалобе.

— Чуў, але наш прыход у большай жалобе, адказаў праваслаўны.

— Чаму? Мо' і вашага пасадзілі?!

— Але, браце, моцна пасадзілі, але... на нашу шыю, бо ён Расеец і беднаму чалавеку-Беларусу не спагадае.

# НАШАЯ ПОШТА.

**Хапку Я.:** Праграму і заявы паслалі.

**Маладому Беларусу:** Карэсп. атрымалі, надрукуем.

**Язэпу Мікулевічу:** Высылку газэты спыняем.

**Сыну Гаспадара:** Вашы вершы заслабыя, пішыце прозай.

**Анісковічу:** Матэр'ялы атрымалі, разгледзім. Друкі паслалі.

**Кульбе Я.:** Пасьля сьмерці бацькі ўсе дзеці маюць атрымаць роўную часьць.

**С. Буку:** Праграму, інстр. і заявы паслалі. Газэта „Наша Воля“ ўжо ня выходзе.

**Ярашэвічу:** Пісьмо аб зладзейскіх лапах ня можам зьмясьціць. Пішыце лепш аб чым іншым, бо ляжачага ня б'юць.

**С. Пяюну:** Верш „Для каго“ зьмесьцім крыху пазьней. Газэту гэты месяц для бацькі будзем пасылаць, на другі спынем.

**Квасу:** Карэспандэнцыю дасталі, надрукуем.

**Жых. в. Яковічы:** Заявы атрымалі.

Саковічу В., Пяцюкевічу С., Карману Я., Александровічу М., Петушкевічу А., Валынцу П. — пробны нумар паслалі.

Сеганю В., Русакаву, Лыгу А., Юргелевічу, Грыгаровічу Т., Пышко Ул., Паўшко Г., Кібнак І., Антановічу А., Парэмскаму І., Давілевічу П., Расолу С. — газэту паслалі.

**Дасталі ад:**

Яўтуха Рыгора—5 зл.; Новікава С.—4 зл.; Карася Аляксандры, Нелюба Косьці—па 2 зл.; Русака Ігналі, Яцкевіча Альф.—па 1 зл. 50 гр.; Кузьміцкага Івана—1 зл. 25 гр.

# БІРЖА.

Вільня, 12.IV. 1927 г.

ВАЛЮТЫ:

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . | 8.92$\frac{1}{2}$—8.93$\frac{1}{2}$ зл. |
| Рублі зал. (10 р.) . . . . | 47.30—47.35 „ |

ЗБОЖЖА, ЗЕМЛЯРОБ. І ІНШ. ПРАДУКТЫ:

Вільня, 9.IV. 1927 г.

| | |
|---|---|
| Жыта за 100 кг. (6 пуд.) . . | 43.00—44.00 зл. |
| Авёс „ „ . . | 39.00—40.00 „ |
| Ячмень брав. „ . . | 39.00—40.00 „ |
| „ на кашу „ . . | 00.00—00.00 „ |
| Пшаніца „ . . | 50.00—51.00 „ |
| Сланіна тутэйшая I гат. 1 кг. . | 4.00—4.20 „ |
| Клустасьць свінная „ . . | 4.50—4.70 „ |
| Масла несал. за 1 кг. . . . . | 7.00—7.50 „ |
| „ салён. . . . . . . . | 5.50—6.00 „ |
| Сьмятана за 1 літр . . . . . | 2.00—2.20 „ |
| Тварог „ . . . . . | 1.00—1.30 „ |
| Яйкі за 1 дзес. . . . . . . | 1.50—1.80 „ |

**Беларуская Кнігарня „Пагоня“**
**Вільня, Завальная 7.**

Прадае на месцы і высылае на правінцыю беларускія кніжкі рожнага зьместу, сцэнічныя творы, школьныя падручнікі, пісьменныя прылады і інш.

**На правінцыю Кнігарня пасылае кніжкі наложным плацяжом, лічачы найніжэйшыя цэны.**

Хто хоча выпісаць кніг павінен прыслаць адкрытку і задатак, падаючы свой адрэс і назовы кніжак, якія патрабуе. Кнігарня адразу споўніць заказ, за які трэба заплаціць на пошце пры атрыманьні кніжак. З заказамі зварочвайцеся на адрэс: **Вільня, Завальная 7, кнігарня „Пагоня“.**

**Фруктовыя дрэвы (прышчэпы) і ягадныя кусты,**

вырашчаныя на месцы ў садаводзтве „Мазалёва“ МОЖНА ТАМ КУПІЦЬ У ВЯЛІКІМ ВЫБАРЫ.

Заказы прыймаюцца:
**Вільня, Завальная 6 хв. 2,**
а таксама на месцы ў садаводзтве.

**Цэны даступныя.**

Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.